ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№3 (36) сакавік 2014 год
CATHOLICNEWS.BY

# Новыя святары-марыяне



**Супольнасць айцоў-марыянаў Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі 8 сакавіка стала багацейшая на двух святароў. У Оршы ў гэты дзень пасвячэнне атрымалі дыяканы Канстанцін Анашка і Вадзім Мізер.**

**Ірына Грэйць**, *тэкст і фота*

З ранку ў Оршу пачынаюць з'язджацца вернікі з Друі, Барысава, Мінска, Оршы, Росіцы, Жодзіна. Менавіта на гэтых беларускіх землях вядуць актыўную душпастырскую і евангелізацыйную працу марыяне. Прыехалі сюды святары з Польшчы і Украіны.

У людзей трывае святочны настрой. Хрысціяне, якія накіроўваюцца сюды, бачаць важнасць гэтай падзеі, і зусім не з нагоды Міжнароднага дня жанчын. Вернікі з Барысава Анатоль і Галіна Бельскія распавядаюць: "За часы савецкай улады духоўнасць у нашай краіне была амаль знішчана. З вяртаннем Касцёла ў Беларусі пачалося аднаўленне рэлігійнага жыцця. Для працы вельмі патрэбныя святары. На жаль, іх не хапае. Таму кожны новы святар для вернікаў – вялікая радасць".

Два браты… Чую неаднаразова ад вернікаў. Так яны называюць дыяканаў Вадзіма і Канстанціна. І не толькі таму, што яны знаходзяцца ў адной манаскай супольнасці. А яшчэ і таму, што доўгі час разам ішлі па адной дарозе да Хрыста. З 2005 па 2007 г.г. яны праходзілі духоўную фармацыю ў пастуляцые і навіцыяце. У 2007 годзе разам складалі першыя манаскія шлюбы. У 2013 – прынялі пасвячэнне ў дыяканы. І сёння таксама разам скажуць Госпаду "так".

У святыні гучыць узнёслы спеў маладога гурта "Рыбы". Пачынаецца святая Імша. Яе ўзначальвае біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. На ўрачыстасці прысутныя бацькі будучых святароў. Яны шчыра моляцца і хвалююцца.

Дыяканы выказваюць жаданне прыняць пасвячэнняў. У дыялогу з біскупам яны сведчаць пра сваю гатоўнасць спаўняць святарскія абавязкі. Для біскупа Алега Буткевіча гэта таксама першы вопыт удзялення пасвячэнняў.

Заўсёды ў важныя хвіліны Касцёл звяртаецца па заступніцтва да ўсіх святых. Спяваючы Літанію, вернікі просяць, каб будучыя святары былі для ўсіх слугамі паводле сэрца Хрыста.

Адчуваецца набліжэнне самага важнага моманту – пасвячэнняў. Біскуп у апостальскім жэсце ўскладае рукі на выбраных. Пасля прысутныя святары робяць тое ж.

Біскуп шчыра гаворыць словы малітвы, у якой просіць для выбраных моцы Святога Духа. І вось Касцёл у Беларусі ўжо мае новапасвечаных святароў. Яны апранаюцца ва ўрачыстае залацістае літургічнае адзенне. Зараз штодня на алтары яны будуць складаць ахвяру Богу, таму біскуп намашчае іх далоні Святым Хрызмам і ўручае хлеб і келіх з віном.

Шмат кветак, усмешак, шчырых пажаданняў – усё гэта сёння дораць вернікі, віншуючы новых святароў.

Кацярына і Тамара – дзяўчаты з Барысава – гавораць: "Беларусь патрабуе святароў! Сваіх, родных, якія ведаюць сваю мову і разумеюць свой народ. Сёння вельмі асаблівы, радасны, прыгожы і ўзнёслы дзень для ўсіх вернікаў!"

Госпад узяў новых святароў ад людзей і да людзей паставіў, каб яны годна служылі беларускаму народу на хвалу Божую.

**Інтэрв'ю**
Медсястра ў манаскім адзенні
Старонка 4



**Разважанні**
Салідарныя з Украінай
Старонка 5



**Пытанне святару**
Ці можна вянчацца некалькі разоў?
Старонка 6



**Памяць**
Развітанне з Паэтам
Старонка 3



**Сведчанне**
Я ўчапілася за яго руку…
Старонка 2



# Я ўчапілася за яго руку…

### Гісторыя адной сустрэчы

Так здарылася, што напрыканцы мінулага года ў сувязі з праблемамі са здароўем я патрапіла ў Рым, дзе мне тое ж здароўе добрыя людзі абяцалі падправіць. Хоць гэта і не было маім першым падарожжам у Вечны Горад, але ўражанні ад побыту засталіся не менш яркімі і запомняцца мне на ўсё жыццё. Самай важнай падзеяй была сустрэча з Папам Францішкам. Трэба сказаць, што для мяне гэта быў сапраўдны падарунак лёсу, духоўны падарунак, тым больш што ўсё гэта адбывалася напрыканцы Году Веры. Гэта было яшчэ адным пацвярджэннем таго, што калі Бог дае табе нейкі асаблівы крыж, то Ён паклапоціцца і пра тое, каб даць табе і веры, і сілы духоўнай, і падтрымкі патрэбнай. Тады я гэта вельмі адчула на сабе і думаю, што на той момант мне гэта было вельмі патрэбна, як подых свежага паветра…

### Адносіны грамадства да інвалідаў

Хацелася б закрануць праблему ўспрымання нашым грамадствам людзей з абмежаванымі магчымасцямі, або інвалідаў. Інвалід – слова, якога ў нас так баяцца, бо, пэўна, атаясамліваюць з нечым найгоршым… На Захадзе названы тэрмін не ўжываецца. Гэта выразна сведчыць, што там такія людзі ўспрымаюцца абсалютна нармальна і маюць тыя ж правы і магчымасці, што і цалкам здаровыя. А часам нават і большыя ў сувязі са сваімі захворваннямі. У нас, на жаль, зусім іншая сітуацыя: хто сутыкнуўся з падобнымі праблемамі, думаю, мяне зразумеюць… Там, у Рыме, я зусім не адчувала, што я "не такая", наадварот, сказала б, што пабыла ў раі.

> ***У Рыме я не адчувала сябе "не такой"...***

### Просты і адкрыты Папа

Настала доўгачаканая серада, калі я павінна была сустрэцца з Папам на генеральнай аўдыенцыі. Скажу, што Рым у той дзень быў хмарны, было няўтульна і вельмі холадна. Калі мы прыйшлі на плошчу св. Пятра, нас накіравалі наперад, дзе ўжо сабралася шмат хворых. Для некаторых гэта магла быць іх першая і апошняя сустрэча з Папам Францішкам, а можа, і ўвогуле апошні выезд здому, таму нават пранізлівы холад нікога не стрымаў.

Плошча была запоўненая. Радасныя воклічы пілігрымаў, каляровыя сцягі і плакаты, добры настрой, які панаваў тут – усё гэта адцягвала нашу ўвагу ад холаду, і мы з вялікай цікавасцю назіралі за тым, што абывалася навокал: першы раз усё ж такі бачыш і ўдзельнічаеш у такім мерапрыемстве, ды яшчэ з самім Папам. Мне яшчэ доўга не верылася, што гэта ўсё адбываецца са мной, што гэта не сон…

Папа рушыў ў наш бок. Цяпер ужо ў "нашым сектары" ўсё ажыло, усе з вялікім энтузіязмам віталі Святога Айца, і хворыя, хто чым мог і як мог, махалі на павітанне. Сэрца так білася, здавалася – выскачыць… З некаторымі Папа размаўляў больш, з некаторымі менш, некаторых абдымаў, а з некаторымі маліўся, з кімсьці жартаваў і смяяўся, а кагосьці ўважліва слухаў. Але ва ўсім гэтым Святы Айцец быў настолькі натуральным, простым і даступным, што не адчувалася аніякай розніцы паміж ім і табой. Было бачна, што Папа Францішак добра пачуваецца сярод людзей, звычайных людзей. Не ведаю, якімі словамі апісаць сваю радасць, калі Папа падышоў да мяне, пабласлaвіў…



Я ўчапілася за яго руку і ўсё, што ў той момант здолела прамовіць, гэта тое, што Беларусь вельмі любіць і чакае Папу. Тады я адчула сябе самым шчаслівым чалавекам на Зямлі. Мне здавалася, што ў мяне выраслі крылы і для мяне ўжо няма нічога немагчымага.

> ***Усё, што я здолела прамовіць у той момант, гэта тое, што Беларусь вельмі любіць і чакае Папу.***

### Побыт у Рыме – вялікі цуд

Як ужо згадвала раней, побыт у Вечным Горадзе, у сэрцы Каталіцкага Касцёла для мяне быў вялікай ласкай, калі не цудам, беручы пад увагу мой стан здароўя. І сустрэча з Папам, і іншыя падзеі вельмі ўмацавалі мяне духоўна, за што не перастаю дзякаваць Богу. Дзякую за магчымасць аднаўлення сваёй веры сёстрам Сям'і Марыі ў Рыме, асабліва сваёй сястры Ірыне, сябрам-італьянцам, у якіх я вучылася адкрытасці, і ўсім, хто якім-небудзь чынам прычыніўся да ўсіх вышэйапісаных падзей. Жадаю перш за ўсё сабе, а таксама вам, сябры, быць сапраўднымі сведкамі Хрыста!

*Марына Раманчук,*
*в. Пятроўшчына,*
*Глыбоцкі раён*

## Пантыфік падтрымаў святароў, якія сталі ахвярамі паклёпу

**Папа Францішак папрасіў прабачэння ў групы святароў Рымскай дыяцэзіі за тое, што ім давялося стаць ахвярамі фальшывага абвінавачвання з боку іх былога сабрата ў сэксуальных злоўжываннях адносна непаўналетніх.**

Да гэтага прычыніўся таксама былы дарадчык Апостальскай нунцыятуры ў Італіі. Не называючы імёнаў, Пантыфік адзначыў, што расследаванне злачынства паклёпу працягваецца, і прыкладаюцца намаганні для "адхілення" вінаватых у яго здзяйсненні. Аднаго з вінаватых італьянскія праваахоўныя органы ўжо змясцілі ў турму.

Падчас сустрэчы з рымскімі пробашчамі 6 сакавіка 2014 г. у Ватыкане Папа падкрэсліў, што быў глыбока крануты гэтай сітуацыяй і падзяляе боль святароў, якія падвергліся паклёпу. "Хачу сказаць публічна, што я блізкі да святарскай супольнасці, таму што абвінавачанні датычаць не толькі сямі, васьмі, пятнаццаці чалавек, але ў асобах гэтых сямі, васьмі, пятнаццаці прадстаўлена ўсё духавенства", – адзначыў Святы Айцец.

Францішак папрасіў прабачэння ў прысутных не толькі як Біскуп Рыма, на чыёй дыяцэзіяльнай тэрыторыі здарылася падобнае злачынства, але таксама як асоба адказная і за дыпламатыю Святога Пасада, таму што адзін з паклёпнікаў быў ватыканскім дыпламатам. Папа назваў гэта злачынства "цяжкай несправядлівасцю". Яго цёплыя, бацькоўскія словы былі сустрэты апладысментамі рымскіх святароў.

*radiovaticana.va*

## У Віцебскай дыяцэзіі створана Эканамічная Рада

**Падчас сустрэчы святароў і законных асоб з біскупам Алегам Буткевічам, якая адбылася 11 сакавіка ў Паставах, было абвешчана пра стварэнне Эканамічнай Рады Віцебскай дыяцэзіі. Кожны член Рады асабіста атрымаў дэкрэт, які будзе дзейнічаць цягам пяці гадоў.**

■ Марына Брылёнак

Такім чынам, Эканамічная Рада Віцебскай дыяцэзіі складаецца з наступных святароў:

**Ксёндз-пралат Францішак Кісель;**
**Ксёндз-канонік Павел Кнурэк;**
**Ксёндз-канцлер Адам Дынак;**
**Ксёндз Андрэй Аніскевіч;**
**Ксёндз Андрэй Кулік.**

Таксама ў найбліжэйшы час будуць фармавацца Святарская Рада і Рада Кансультараў Віцебскай дыяцэзіі. Для Святарскай Рады з кожнага дэканата святары павінны выбраць аднаго кандыдата.

Усе гэтыя структуры маюць у якасці задання дапамагаць дыяцэзіяльнаму біскупу ў вырашэнні розных важных і складаных пытанняў.




Канцлер Віцебскай дыяцэзіі кс. Адам Дынак зачытвае новыя прызначэнні.

# Біскуп Алег Буткевіч заклікаў святароў знайсці час на выходны дзень

**"Дзякую Богу за цудоўны дзень, за спрыяльнае надвор'е і за вашу прысутнасць на гэтым спатканні" – такімі словамі кс. біскуп Алег Буткевіч распачаў Эўхарыстыю падчас сустрэчы святароў і законных асоб у Паставах, якая адбылася 11 сакавіка.**

**Марына Брылёнак**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*

Гэта было першае публічнае спатканне віцебскага пастыра са сваім духавенствам. Як заўсёды, св. Імшу папярэдзіла супольная малітва перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Падчас гаміліі біскуп Алег звярнуў увагу святароў на іх паслугу. Ён зазначыў, што плён працы залежыць ад пасеву, ад самага пачатку. Прыгадаў вядомыя ўсім словы: "Жыві так, як будзеш абвяшчаць слова". Таксама выкарыстаў нетыповае параўнанне. Іерарх сказаў, што чалавек – як ракета, дзе душа павінна узляцець на арбіту, да Бога, але для гэтага ёй неабходны добры рухавік, каб не здарылася якой-небудзь аварыі. І тут, зазначыў біскуп, патрэбная духоўная свабода. Свабода ад граху, а менавіта ад трывання ў ім. І да набыцця такой духоўнай свабоды ў часе Вялікага посту заклікаў святароў біскуп Алег.

Таксама пастыр звярнуў увагу святароў на іх адпачынак. І нават абавязаў, каб адзін дзень у тыдні мелі яны выходны, каб клапаціліся пра сябе і свае сілы. Як заўважыў біскуп, "гэта вельмі патрэбна, каб потым добра і плённа працаваць астатнія дні на Божай ніве".

Падчас Эўхарыстыі біскуп Алег маліўся за ўсю дыяцэзію, каб людзі імкнуліся ствараць супольнасць, ствараць сапраўдную сям'ю, дзе кожны будзе адчуваць сябе добра. Таксама пастыр маліўся за ўкраінскі народ, аб мірным вырашэнні канфлікту, які там паўстаў.

На заканчэнне адбылася афіцыйная частка, падчас якой многія святары атрымалі дэкрэты ад біскупа з прызначэннямі на служэнне ў курыі і парафіях.




Айцец Віталь Юркевіч атрымлівае дэкрэт ад біскупа Алега Буткевіча.

# Развітанне з Паэтам

**Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, які 2 сакавіка памёр у Мінску, пахавалі 4 сакавіка на ўшацкіх могілках побач з магілай маці. Такая была апошняя воля паэта – быць пахаваным у роднай зямлі.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Глеб Лабадзенка**, *фота*




Спачатку развітанне з творцам адбылося ў Мінску, у Чырвоным касцёле. Там прайшлі дзве службы: найперш паводле грэка-каталіцкага абраду, да якога адносіў сябе паэт, потым – паводле рыма-каталіцкага. Паміж гэтымі малебнамі вернікі праспявалі гімн "Магутны Божа".

Жывую трансляцыю з цырымоніі развітання з Паэтам вялі шмат якія інфармацыйныя сайты. Гучалі аўдыёзапісы яго вершаў. Голас дзядзькі Рыгора часта гучаў у сценах гэтага касцёла пры жыцці, таму невыпадкова, што і развітанне з Барадуліным адбылося менавіта тут.

Святую Імшу цэлебраваў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч – Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі. Ва ўступным слове ён выказаў спачуванне родным і блізкім паэта, а таксама ўсім беларусам, што перажываюць смерць вялікага мастака слова.

Напрыканцы Імшы было зачытанае слова папскага Нунцыя ў Беларусі арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроці. У ім, у прыватнасці, гаварылася: "Мова – гэта інструмент, якім карыстаецца Бог, каб размаўляць з народам. Таму яна святая і вартая, каб яе шанавалі і любілі, як маці. На гэтым інструменце Рыгор Барадулін умеў выконваць дзівосныя мелодыі і дазволіў беларускаму народу сваёй мовай дакрануцца да вышынь прыгажосці. Веру, што беларусы, якія разам з іншымі святымі жывуць уззянні Божага святла, выйдуць яму насустрач, каб падвесці яго да Бога. І, быць можа, Бог прывітае яго ў сваім доме простымі словамі, якімі беларускае сэрца вітае гасцей: "Калі ласка, Рыгор".

А другой гадзіне дня цела паэта павезлі на яго родную Ушаччыну, каб выканаць апошнюю волю майстра – вярнуцца да той, якая дала яму некалі жыццё.

Труна з целам паэта прыбыла ва Ушачы каля пяці гадзін вечара. Людзі пачалі збірацца на пахаванне задоўга да гэтага. Труну з нябожчыкам паставілі ў двары дома, куды любіў прыязджаць паэт, у цені таго вяза, які бацька дзядзькі Рыгора пасадзіў разам з сынам у далёкім 1939 годзе.

Жалобны мітынг працягваўся каля гадзіны. На ім выступілі як прадстаўнікі ўлады, так і грамадскасці, а таксама сябры паэта. У сваім выступе беларускі паэт Уладзімір Някляеў сказаў: "Барадуліна не адпускалі са сталіцы. Казалі: ён належыць усёй Беларусі і павінен быць пахаваны ў Мінску. Але ягоная воля: "Я хачу быць у сваёй зямлі, побач са сваёй мамай." Сюды, у гэту крэўную, родную зямлю, ён і пакладзецца побач з матуляй. І я спадзяюся, што памяць пра яго вы і вашы нашчадкі пранесяце годна". Сп. Някляеў адзначыў, што жыхарам Ушачаў вельмі пашанцавала, бо Рыгор Іванавіч іх так любіў.

Пасля развітання каля дома цела нябожчыка павезлі на могілкі. Там таксама адбылася жалобная цырымонія. Пачалася яна з набажэнства, якое правялі святары рыма-каталіцкага і ўсходняга абрадаў. Адбыўся кароткі жалобны мітынг, на якім яшчэ раз прагучалі развітальныя словы сяброў і знаёмых дзядзькі Рыгора.

Потым дамавіну на руках панеслі да магілы маці, дзе будзе спачываць цела сына Беларусі. Крыж наперадзе працэсіі нёс пісьменнік Уладзімір Арлоў, паэт Уладзімір Някляеў – партрэт Рыгора Барадуліна. Могілкі ва Ушачах размешчаны на высокім пагорку, таму ад магілы дзядзькі Рыгора адкрываецца вельмі прыгожы краявід – відаць хіба ці не паў-Ушаччыны. Калі труну закопвалі, людзі зноў заспявалі гімн "Магутны Божа".

Было ўжо амаль палова восьмай, калі пахаванне закончылася. Навокал сцямнела. Але ўшачане ўлічылі такую акалічнасць і забяспечылі штучнае асвятленне ад генератара.

Магілы Рыгора Барадуліна і яго маці Акуліны поўнасцю патаналі ў кветках…

Асірацела беларуская зямля, бо разам з дзядзькам Рыгорам адышла цэлая эпоха. Але беларусы будуць памятаць Паэта, які вучыў у сваіх вершах любіць Бога, маці і родную зямлю.



# Медсястра ў манаскім адзенні

**Сястра Ірына Раманчук родам з Беларусі. Яна належыць да Кангрэгацыі сясцёр-францішканак Сям'і Марыі і вось ужо шэсць гадоў працуе ў Ватыканскім педыятрычным шпіталі ”Bambino Gesu” ў Рыме. Пра тое, як туды трапіла, пра радасці і цяжкасці ў сваёй працы яна распавяла ў інтэрв'ю “Каталіцкаму Весніку”.**

**– Сястра Ірына, вядома, што Вы год працавалі ў Беларусі, у Глыбокім. Якім чынам Вы трапілі аж у Рым?**

– Шчыра кажучы, для мяне гэта было вялікай нечаканасцю. Пасля заканчэння медыцынскага факультэта ў Польшчы я спадзявалася, што вярнуся ў Беларусь і буду тут працаваць у якасці медсястры. Але аднойчы наша Генеральная Настаяцельніца сказала, што я паеду працаваць у Рым. Я вельмі ўзрадавалася, бо дзесьці глыбока ў сэрцы заўсёды марыла, каб хоць аднойчы ў жыцці пабыць у Рыме, наведаць базіліку св. Пятра і іншыя святыя месцы, пабыць, так скажам, у самым цэнтры хрысціянства. Вось так я і трапіла ў Рым.

**– У Глыбокім Вы працавалі з дзецьмі, моладдзю. А як паставіліся да таго, што Вам даручылі атрымаць медыцынскую адукацыю?**

– Гэта вельмі цікавая справа. Шчыра кажучы, я не ўяўляла сябе ў якасці медсястры. Яшчэ з дзяцінства баялася і не любіла лякарняў, бо самой даводзілася там досыць часта бываць. Баялася таксама крыві, ран, уколаў. Калі Генеральная Настаяцельніца спытала, ці не пайшла б я вучыцца на медсястру, я адказала, што пакуль не бачу сябе ў гэтай ролі, але з Божай дапамогай магу паспрабаваць. Ну і сапраўды, дзякуючы Божай ласцы я цяпер медсястра.

**– Вы вучыліся ў адной краіне, а працаваць пачыналі ў іншай. З якімі цяжкасцямі Вам давялося змагацца?**

– Па парадку: я сама з Беларусі, вучылася ў Польшчы, працую ў Італіі. Нялёгкая справа *(смяецца)*. Першая цяжкасць – гэта, канешне ж, мова. Трэба было дастаткова добра яе вывучыць, каб магчы працаваць у шпіталі. На пачатку мне шмат дапамагалі зычлівыя калегі, што мяне вельмі ўразіла. Калі я прыходзіла ў аддзяленне, мне казалі: “Не перажывай, усё будзе добра”. Але страх усё ж такі быў спачатку, тым больш, што шпіталь, у якім працую, належыць Ватыкану. Узровень працы высокі, і вымаганні таксама. Усё гэта я ўспрымала як Божую волю і верыла, што Бог мне дапаможа.

**– Раскажыце, калі ласка, падрабязней пра сваю працу.**

– Вельмі важным момантам у маёй працы з'яўляецца тое, што кожны дзень пачынаецца св. Імшой у шпітальнай капліцы. Мы просім Езуса, каб даваў нам сілы ісці з паслугай да хворых дзяцей і іх бацькоў. Працую я ў аддзяленні нефралогіі. Гэта цяжкае аддзяленне, бо тут і гемадыаліз, і перасадкі органаў, і нават анкалагічна хворыя дзеці. Я адна сястра-манахіня, рэшта персаналу – свецкія асобы.

**– Вядома, шпіталь, ды яшчэ дзіцячы, не самае вясёлае месца, а ўсё ж такі ёсць у Вашай працы нейкія пазітыўныя моманты?**

– Безумоўна. Іх вельмі шмат. Мы радуемся, калі нашы пацыенты папраўляюцца і шчаслівыя вяртаюцца дадому. Але ёсць і такія, якія знаходзяцца ў шпіталі па некалькі гадоў, і тады бацькі чакаюць ад нас усмешкі і нават жартаў, бо сама атмасфера шпіталя і цярпення ўжо насоўвае сум. Нават дзеці, нягледзячы на хваробы, умеюць жартаваць, расказваць анекдоты. А яшчэ ў нас малады персанал, а маладым заўсёды весела.

**– А што на сённяшні дзень з'яўляецца самым цяжкім у Вашай працы?**

> **У наш шпіталь паступае ўсё больш дзяцей з ракавымі захворваннямі...**

– Можна сабе неяк растлумачыць, калі хварэе дарослы чалавек, але калі хварэе дзіця… – сціскаецца сэрца. У наш шпіталь паступае ўсё больш дзяцей з ракавымі захворваннямі, амаль кожны дзень хтосьці памірае. А з іншага боку, назіраеш, як сталеюць бацькі ў цярпенні са сваімі дзецьмі і з якой мужнасцю і даверам Богу прымаюць усё, што адбываецца з імі, а часам яшчэ і нас падтрымаюць, калі трэба. А яшчэ засмучае тое, што шмат часу ў працы трэба прысвяціць паперам і зусім мала застаецца для пацыента, бацькоў, для размоў з імі, для малітвы ля ложка хворага.

> **... служачы хвораму чалавеку, я служу самому Богу.**

**– Сястра Ірына, пасля шасці гадоў працы ў шпіталі як Вы разумееце выраз “служыць бліжняму”, што ён для Вас азначае?**

Перш за ўсё, служачы хвораму чалавеку, я служу самому Богу. Наша місія як духоўных асобаў найперш менавіта духоўна падтрымліваць тых, хто сутыкнуўся з хваробай. Служыць – значыць быць пры хворым, часам нават нічога не кажучы, бо не заўсёды можна знайсці словы, каб суцешыць дзіця ці яго бацькоў, асабліва, калі яны разумеюць, што хвароба прагрэсуе. Служыць – значыць проста патрымаць хворага за руку, разам памаліцца. Мы з сёстрамі з маёй супольнасці кожны дзень молімся за нашых пацыентаў, іх бацькоў і ўвесь персанал шпіталя, а таксама стараемся сведчыць сваёй паслугай пра Хрыста, несці Яго хворым. Ну і, канешне, служыць канкрэтнай дапамогай у якасці медсясцёр.

**– Ці сумуеце Вы па роднай Беларусі, знаходзячыся так далёка?**

– О, вельмі сумую! Я марыла працаваць у Беларусі, але Бог меў для мяне іншыя планы. Пра Беларусь заўсёды памятаю, перш за ўсё малюся за краіну, людзей і тых, хто ёй кіруе. Малюся і за Віцебскую дыяцэзію, і як толькі ёсць магчымасць, наведваю грабніцу св. Язафата* ў базіліцы св. Пятра, давяраю яму справы ўсёй Беларусі, а асабліва – маёй дыяцэзіі. На самым пачатку, калі толькі прыехала ў Рым, у мяне была магчымасць наведваць сустрэчы для моладзі, святароў і сясцёр з Беларусі. Там мы маліліся на св. Імшы пабеларуску, дзяліліся Божым словам, а пасля весела праводзілі час з пачастункам. А яшчэ, калі я прыязджаю да бацькоў на вакацыі, загадзя прашу маму, каб збірала мне нашы рэлігійныя часопісы да газеты: “Дыялог”, “Каталіцкі Веснік”, “Ave Maria”, пасля вязу ўсё у Рым, у вольны час іду ў сад на лаўку і павалі чытаю, каб расцягнуць прыемнасць (смяецца).

**– Дзякуй, сястра Ірына, за размову. Жадаем Вам поспехаў, а таксама Божай дапамогі і зычлівых людзей на Вашым жыццёвым шляху.**

– Дзякуй!

***Падрыхтавала Марына Раманчук***

*Св. Язафат Кунцэвіч – арцыбіскуп Полацка. Загінуў мучаніцкай смерцю ў Віцебску ў 1623 годзе. З'яўляецца апекуном Віцебскай дыяцэзіі. Цела спачывае ў базіліцы св. Пятра ў Рыме.




## Віншаванне з Ахрэмаўцаў

*Вось ужо сёмы год, як да нас у парафію прыехаў ксёндз Ігнат Санюта. Раней тут працавалі розныя святары. Касцёл у Ахрэмаўцах адбудоўваўся, таму святая Імша спачатку адпраўлялася ў капліцы на могілках, затым – у клубе торфабрыкетнага завода.*

*Ужо 11 гадоў дзейнічае касцёл. Цяпер ідзе рамонт святыні: заменены вокны і дзверы, пафарбаваныя сцены, алтар упрыгожвае фрэска. Зусім нядаўна з'явіўся абраз Святога Міхаіла Арханёла. Уся праца праводзіцца пад умелым кіраўніцтвам кс. Ігната Санюты на ахвяраванні вернікаў. Наперадзе яшчэ многа спраў.*

*Мы, вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа, і Легіён Марыі “Маці Божай Вострабрамскай” віншуем Вас, паважаны кс. Ігнат, з Днём нараджэння, які адзначаеце 17 сакавіка! Зычым апекі ўсіх святых і Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Духа Святога, моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.*

*Яшчэ мы віншуем паважанага біскупа Алега Буткевіча з новым прызначэннем і Днём нараджэння, які ён будзе адзначаць 18 сакавіка. Мы жадаем біскупу Алегу моцнага здароўя, апекі Маці Божай Браслаўскай і даўгалецця.*

***Ірэна Дуброўская,** парафія Узвышэння Святога Крыжа ў Ахрэмаўцах*

# Салідарныя з Украінай



Папа Францішак разам з дзецьмі выпускае галубоў пасля заклiку аб міры ва Украіне.

**Некалькі апошніх месяцаў увагу еўрапейскай супольнасці, а ў астатнія тыдні і ўсяго свету вакол сябе трымаюць падзеі, якія развіваюцца ў нашай паўднёвай суседкі – Украіне. Акцыя пратэсту, што пачалася ў канцы лістапада мінулага года, скіраваная супраць рашэння кіраўніцтва краіны адмовіцца ад падпісання асацыяцыі з Еўрапейскім Саюзам, у выніку вылілася ў жорсткае супрацьстаянне з вымогамі адстаўкі ўраду і правядзення пазачарговых прэзідэнцкіх выбараў.**

■ **Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

Фонам такога супрацьстаяння стаў высокі ўзровень карупцыі ў краіне (у 2013 г. сярод 175 краін свету Украіна заняла 144-е месца паводле індэксу ўспрымання карупцыі, разлічаным па методыцы міжнароднай няўрадавай арганізацыі Transparency International, і падзяліла гэтае месца з такімі краінамі, як Іран, Нігерыя, Папуа-Новая Гвінея, Камерун і Цэнтральна-Афрыканская Рэспубліка). Нежаданне ўладаў пачуць думку соцень тысяч людзей і захады, скіраваныя на абмежаванне грамадзянскіх свабодаў, прывялі да радыкалізацыі пратэсту, што ў хуткім часе вылілася ў крывавыя сутычкі дэманстрантаў з праваахоўнымі арганамі, а таксама ў смерці людзей.

### Прычына канфлікту – няўменне пачуць іншага

Пра вастрыню сітуацыі ва Украіне сведчыць таксама рэакцыя міжнароднай супольнасці, у тым ліку кіраўніка Каталіцкага Касцёла Папы Францішка. Святы Айцец за апошнія месяцы неаднаразова ў сваіх выступах звяртаўся да тэмы Украіны і сведчыў сваю пазіцыю адносна грамадскага канфлікту ў нашых суседзяў. У першую нядзелю пасля пачатку сутычак ва ўрадавым квартале Кіева, 26 студзеня 2014 г., падчас малітвы «Анёл Панскі» Папа Францішак сказаў: «Агартаю малітвамі Украіну, улучна і тых, хто страціў сваё жыццё гэтымі днямі, і іхнія сем'і. Жадаю, каб развіваўся канструктыўны дыялог між інстытутамі і грамадзянскай супольнасцю, каб, выключаючы любое выкарыстанне гвалтоўных дзеянняў, у сэрцы кожнага чалавека пераважаў дух міру і пошукаў супольнага дабра».

Гэтыя словы, якія, на першы погляд, выражаюць звычайнае дыпламатычнае стаўленне і стандартны для кожнай публічнай асобы заклік да міру і дыялогу, у дадзеным выпадку не можа ўспрымацца так фармальна. Бо такім чынам Святы Айцец выражае глыбокую Божую праўду, адлюстраваную ў сацыяльным вучэнні Каталіцкага Касцёла, якое сцвярджае, што "палітычная супольнасць знаходзіць сваё сапраўднае вымярэнне ў адносінах да народа. Народ не з'яўляецца бясформенным натоўпам, пасіўнай масай, якой можна маніпуляваць і якую можна разглядаць як інструмент, але аб'яднаннем асоб, кожная з якіх мае магчымасць на сваім месцы і адпаведным сабе чынам фарміраваць сваю думку наконт грамадскіх спраў, свабодна выказваць свае палітычныя погляды і выкарыстоўваць іх згодна з агульным дабром. Народ жыве паўнатой жыцця людзей, якія яго складаюць" (Кампендый сацыяльнага вучэння Касцёла, 385). Менавіта такога разумення не хапала ва Украіне, каб распачаць той дыялог, да якога заклікаў Папа.

### Бог крычыць да нас праз пакуты

Ігнараванне падстаўповых прынцыпаў грамадзянскага сужыцця і асабістай адказнасці за стан грамадства прывялі да новых смерцяў, якія вымяраліся ўжо дзясяткамі загінулых. "З глыбокай занепакоенасцю я сачу за тым, што адбываецца ў гэтыя дні ў Кіеве", – прызнаўся Святы Айцец 19 лютага 2014 г. на заканчэнне агульнай аўдыенцыі, якая праходзіла на плошчы св. Пятра. "Я запэўніваю ў маёй блізкасці да ўкраінскага народа і малюся за ахвяр гвалту, членаў іх сем'яў і параненых. Заклікаю ўсе бакі спыніць любыя акты гвалту і шукаць згоды і міру ў краіне", – сказаў Пантыфік. Праз два дні Папа Францішак адкрыў другі дзень надзвычайнай кансісторыі ў Ватыкане на тэму сям'і малітвай за Украіну, пагружаную ў гвалт.

Палітычныя змены, якія адбыліся ва Украіне адразу пасля трагічных падзеяў сярэдзіны лютага – адхіленне ад пасады прэзідэнта і фармаванне новага ўраду, – зноў атрымалі негатыўны працяг. Гэтым разам – у выбуху сепаратызму і пагрозе ваеннай інтэрвенцыі з боку Расіі. Пасля традыцыйнай нядзельнай малітвы "Анёл Панскі" 2 сакавіка 2014 г., звяртаючыся з вакна Апостальскага палаца Ватыкана, Папа Францішак заклікаў працягваць "маліцца за Украіну, якая перажывае далікатную сітуацыю". Звяртаючыся да вернікаў, палітыкаў і міжнароднай супольнасці, Святы Айцец сказаў: "Заклікаю ўсе групы ў краіне прыкладаць намаганні для пераадолення непаразуменняў і будавання разам будучыні дзяржавы. Звяртаюся да міжнароднай супольнасці са шчырым заклікам падтрымаць усе ініцыятывы на карысць дыялогу і згоды".

### Салідарнасць – шлях да спакою

Зварот Папы да міжнароднай супольнасці таксама адлюстроўвае вучэнне Каталіцкага Касцёла адносна міжнароднага суіснавання: "Для замацавання перавагі права важнае значэнне мае перш за ўсё прынцып узаемнага даверу. (...) Зрухі ў гэтым кірунку дазволяць міжнароднай супольнасці выступаць ужо не толькі як выпадковаму аб'яднанню дзяржаў, але як структуры, у якой канфлікты могуць быць вырашаны мірным шляхам. «Калі ў асобных дзяржавах <...> асабістая помста і рэпрэсіі былі заменены ўладай закону, то гэта ўжо найлепшы крок, які сёння так патрэбны міжнароднай супольнасці». У крайнім выпадку міжнароднае права «павінна прадухіляць сітуацыі, у якіх перавагу меў бы закон мацнейшага».

Звяртаючы сваю ўвагу на словы Святога Айца, скіраваныя да прадстаўнікоў украінскага грамадства і міжнароднай супольнасці, мы, каталіцкія вернікі Беларусі, не можам праігнараваць таксама зварот Папы Францішка да хрысціян з заклікам да малітвы. Пачуццё салідарнасці робіць нас адказнымі за малітоўную памяць пра нашых братоў, якія перажываюць складаныя часы.

# Маці Божая замест Леніна

**Дапаможны біскуп Кіева-Жытомірскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкай Царквы Станіслаў Шырокарадзюк OFM лічыць, што на месцы зрынутага помніка Леніну варта ўсталяваць фігуру Маці Божай, – паведамляе рэлігійна-інфармацыйная служба Украіны. Да такой ідэі яго падштурхнуў сімвалізм датаў і вялікая любоў да Багародзіцы сярод праваслаўных і каталікоў.**

Пра гэта біскуп сказаў са сцэны Еўрамайдану ў Дзень памяці загінулых герояў.

Паводле яго слоў, дата дэмантажу манумента Леніна ў Кіеве – 8 снежня – супадае з рэлігійным святам Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, якое рымакаталікі адзначаюць якраз у гэты дзень, і развалам СССР, юрыдычна афармленым у Белавежскай пушчы.

Дапаможны біскуп таксама адзначыў, што на Майдан людзі выйшлі пасля таго, як улады адмовіліся ад падпісання Асацыяцыі з ЕС. На сцягу Еўрасаюза, сказаў ён, намалявана 12 зорак на сінім фоне. Гэтая сімволіка таксама мае рэлігійны характар: сіні колер традыцыйна лічыцца марыйным, а знак дванаццаці зорак сустракаецца і ў кнізе Адкрыцця. «І вялікі знак паказаўся на небе: жанчына, апранутая ў сонца, і месяц пад нагамі ў яе, і на галаве яе вянок з дванаццаці зорак», – працытаваў іерарх урывак са Святога Пісання.

Нарэшце, сам сцяг ЕС, паводле сцвярджэння біскупа, зацвердзілі менавіта 8 снежня 1955 года.

«Усе гэтыя падзеі вельмі цесна звязаныя са святам Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі... Я думаю, што на тым месцы, дзе стаяў помнік Леніну, патрэбна ўсталяваць фігуру Маці Божай. Гэта будзе найлепшы сімвал і найлепшая ахова для Украіны», – падкрэсліў ён.

«Людзі маліліся дзень і ноч да Дзевы Марыі. Я веру, што яна дапамагла. Мы – і праваслаўныя, і каталікі – людзі вельмі марыйныя. Усе мы шануем Яе як сваю заступніцу», – дадаў біскуп Станіслаў Шырокарадзюк.

### Што б вы хацелі бачыць у сваім горадзе замест статуі Леніна?

**Вынікі анлайн-галасавання на сайце catholicnews.by**




Помнік з выявай Хрыста ці Маці Божай: 20 галасоў – 40.8%;
Помнік беларускаму блаславёнаму: 19 галасоў – 8.8%;
Помнік прэзідэнту Лукашэнку: 4 галасы – 8.2%;
Помнік з выявай якога-небудзь святога: 3 галасы – 6.1%;
Помнік з выявай анёла: 3 галасы – 6.1%.

**Агульная колькасць галасоў – 49**

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Ад імя легіянераў Легіёна Марыі Маці Божай Вастабрамскай з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Ахрэмаўцах Браслаўскага раёна віншую нашага святара айца Ігнація з Днём нараджэння, які ён адзначае 17 сакавіка.*

*Ксёндз Ігнацій працуе ў нас амаль сем год. З ім добра і спакойна, бо ён добры пастыр, клапоціцца пра парафію, шмат працуе на ніве адраджэння духоўнасці.*

*Зычым яму ад кожнага дня вялікай радасці. Няхай Усемагутны Бог спрыяе нашаму айцу ў яго высакародных справах і адорыць яго цярплівасцю і шчасцем. А мы ў сваю чаргу будзем заўсёды памятаць яго ў сваіх малітвах.*

*Ад імя Легіёна Марыі легіянерка Тарун Ядзвіга*

# ПЫТАННЕ СВЯТАРУ

## Ці можна вянчацца некалькі разоў?

*"Адкажыце, калі ласка, на пытанне. Мы вянчаліся з першым мужам. Потым развяліся, агульных дзяцей няма. Выйшла замуж другі раз. Хрост дзяцей быў у касцёле. Муж таксама католік. Кожную нядзелю ўсе разам прыходзім на Імшу. Ці можам мы прыступаць да сакраманту споведзі і прымаць Святую Камунію? Муж таксама вянчаўся з першай жонкай. Ці можам мы скасаваць першыя шлюбы і павянчацца? Нас вельмі турбуе, што мы не прыступаем да сакраманту споведзі і не прымаем Цела Хрыста. Няўжо за памылкі маладосці трэба плаціць?"*

*Вольга*

**На пытанне адказвае кс. Віктар Місевіч, афіцыял Біскупскага Суда Віцебскай дыяцэзіі:**

– Згодна з вучэннем Касцёла, сужэнства з'яўляецца адным з сямі сакрамантаў. Яно заключаецца паміж мужчынам і жанчынай і валодае дзвюма асноўнымі прыкметамі: адзінствам і непарыўнасцю. Гэта азначае, што хрысціянін не можа быць адразу



жанаты на дзвюх жанчынах і хрысціянка не можа быць замужам за двума мужамі адначасова. Непарыўнасць азначае тое, што сужэнства не можа быць разарванае ніякай сілай, апрача смерці. Таму ў Каталіцкім Касцёле няма разводаў.

Калі хтосьці ўжо вянчаўся раней і цяпер жыве з іншым чалавекам як муж або жонка, то не мае права прыступаць да сакраманту споведзі і прымаць Святую Камунію ў касцёле. Нават калі б такі чалавек пайшоў да споведзі, то святар не можа адпусціць яму грахоў, бо выправіцца з граху чужалоства такі чалавек не можа. Адпушчэнне грахоў было б марным. Святар не мае кампетэнцыі ў такіх сітуацыях адпускаць грахі і ўдзяляць такому чалавеку Святую Камунію.

Як ужо было сказана вышэй, у Каталіцкім Касцёле няма разводаў. Аднак у некаторых выпадках можа здарыцца, што па нейкіх прычынах сужэнства было заключана несапраўдным чынам. Гэта значыць, ніколі не адбылося як сакрамант і, значыць, не абавязвае. Але сцвердзіць факт несапраўднасці сужэнства можа толькі Біскупскі Суд, які ёсць у кожнай дыяцэзіі. Каб Суд разгледзеў сітуацыю сужэнства, неабходна даслаць туды пазоўную скаргу, апісаўшы сітуацыю.

У пастаўленым вышэй пытанні сцвярджаецца, што як жанчына, так і мужчына раней ужо вянчаліся і цяпер жывуць у новым сужэнскім саюзе без вянчання. Каб урэгуляваць сваё адносіны згодна з патрабаваннямі кананічнага права, неабходна як мужчыну, так і жанчыне напісаць асобныя пазоўныя скаргі ў Біскупскі Суд. Калі Суд палічыць мэтазгодным, будзе распачаты працэс, і правамоцны прысуд акрэсліць, ці было адно і другое сужэнства заключана па-сапраўднаму. Каб у дадзенай сітуацыі мужчына і жанчына змаглі павянчацца, неабходна, каб у абодвух выпадках Суд вынес прысуд, сцвердзіўшы, што абодва сужэнствы былі ад самога пачатку заключаны несапраўдным чынам. У выпадку, калі адзін працэс завяршыцца адмоўным прысудам, а другі – пазітыўным, на жаль, вянчанне ўсё роўна не будзе магчымым па той прычыне, што адзін з бакоў будзе мець перашкоду да вянчання.

Нягледзячы на тое, што разведзеныя асобы не могуць прымаць Св. Камунію і прыступаць да споведзі, Касцёл заахвочвае іх па магчымасці прымаць актыўны ўдзел у жыцці парафіяльнай супольнасці, жывучы як хрысціяне і даючы належны прыклад сваім дзецям, а таксама дбаючы пра іх рэлігійнае выхаванне.

## Што такое грахі іншых па нашай віне?

*"Хвала Хрысту! Растлумачце, калі ласка, што абазначае выраз "грахі іншых па нашай віне?"*

*Алена*

**На пытанне адказвае кс. Павел Ярашэвіч – парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, г. Пінск:**

– Гэта грахі іншых людзей, да якіх мы маем дачыненне. Калі мы просім ці загадваем іншаму чалавеку зрабіць зло або не зрабіць дабра, калі хвалім ці замоўчваем грэх, калі дапамагаем грашыць ці пакрываем чалавека, які зграшыў, то адказнасць за грэх ускладаецца і на нас. Бо калі б мы гэтага не рабілі, то ёсць верагоднасць таго, што чалавек не зграшыў бы.

Такіх грахоў іншых па нашай віне дзевяць:
- загадваць грашыць;
- намаўляць да граху;
- дазваляць грашыць;
- раіць грашыць;
- хваліць грэх;
- замоўчваць грэх;
- не караць граху;
- дапамагаць грашыць;
- абараняць грэх.

## Грэх пераядання

*"Хвала Хрысту! Пасля нядаўняй споведзі я меў грэх пераядання. Ці магу я прымаць Цела Хрыста? Або патрэбна спавядацца?"*

*Ян*



**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Перашкодай для прыступання да Святога Прычасця ёсць цяжкі грэх. Цяжкім грахом з'яўляецца парушэнне Божай волі свядома і добраахвотна ў значнай матэрыі. Нельга ўніверсальна вызначыць, якія грахі цяжкія, а якія – не. Часта гэта залежыць ад шэрагу абставін і асаблівасцей чалавека. Таму ў Вашым выпадку Святое Прычасце можна прымаць, калі гэтая непамяркоўнасць у ежы, нават калі была свядомай і добраахвотнай, не наносіць непасрэднай шкоды здароўю (напрыклад, парушэнне прыпісанай доктарам дыеты, злоўжыванне алкаголем і т.д).

Калі ж празмернае спажыванне ежы прыводзіць да млоснасці, пагаршэння самаадчування, выклікае патрэбу прымаць лекі – гэта, безумоўна, можна лічыць цяжкім грахом, з якога трэба спавядацца.

У кожным выпадку падобных пытанні варта задаваць святару непасрэдна падчас споведзі. І, узгадваючы словы апостала Паўла: *"Таму, хто будзе есці хлеб гэты альбо піць чару Гасподнюю нягодна, звінаваціцца супраць Цела і Крыві Гасподняй"* (1 Кар. 11, 27), – варта памятаць, што лепш паспавядацца з лёгкага граху, чым прыняць Прычасце ў стане граху цяжкага.

Памятайце таксама мудрасць: «Калі ты ўстаў з-за стала з пачуццём лёгкага голаду – ты наеўся, калі ты адчуваеш сябе сытым – значыць, ты пераеў, калі ты аб'еўся – значыць, ты атруціўся».

## Церковь и армия

*«Я прочитал, что в Беларуси готовится проект закона «Об альтернативной службе», который позволит верующим призывникам избежать службы в армии. Хотелось бы знать, что говорит Церковь о воинской повинности?»*

*Виталий*

**На вопрос отвечает кс. Виктор Мисевич, священник прихода Иисуса Милосердного в Витебске:**

– Ответ на поставленный выше вопрос легко найти, прочитав текст Катехизиса Католической Церкви: «Государственные власти [...] обладают правом и долгом потребовать от граждан исполнения обязанностей, необходимых для защиты отечества.

Те, кто посвящают себя служению родине, находясь на военной службе, являются защитниками безопасности и свободы народов. Честно выполняя свои обязанности, они по-настоящему способствуют общему благу нации и поддержанию мира». (ККЦ 2310)

Как видно из цитаты, Церковь признает необходимость воинской службы и не запрещает верующим выполнять свой долг перед Родиной. Но вместе с тем Церковь обращает внимание общества и на то, что некоторые граждане по своим убеждениям имеют право отказаться брать в руки оружие. И поэтому, как говорит опять Катехизис, «государственные власти должны находить справедливое решение в тех случаях, когда человек по убеждению отказывается брать в руки оружие, при этом оставаясь обязанным служить человеческому сообществу иным образом». (ККЦ 2311)

Поэтому решение белорусских властей издать закон об альтернативной службе можно только приветствовать.



## Увага! Новы адрас для карэспандэнцыі!

**Дарагія сябры!**

З 1 сакавіка памяняўся адрас у нашай газеце для карэспандэнцыі. Калі ласка, цяпер дасылайце свае лісты і ахвяраванні на адрас:

**Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, д.1 г. Глыбокае 211800 Віцебская вобл.**

Каб даслаць ахвяраванне на газету, неабходна паведаміць на пошце новы адрас, а таксама прозвішча, імя і імя па бацьку атрымальніка: **Місевіч Віктар Мар'янавіч.**

Стары адрас для кантактавання ў Бягомлі больш не дзейнічае. Усю карэспандэнцыю, калі ласка, дасылайце на новы адрас ў Глыбокім.

Змяніўся таксама тэлефон рэдакцыі: **8(02156) 2-32-60, гадзіны для тэлефанаванняў: з 14.00 да 18.00 ад панядзелка да пятніцы.**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Г. Януковіч** (Ваўкалаты), **Леанард і Галіна Захарэвіч** (г. Барысаў), **Баляслаў Драўсаль** (г. Барысаў), **Гэнавэфа Бартко** (в. Абруб, Глыбоцкі р-н), **Ганарата Ляхновіч** (г. Барысаў), **Феліцыя Небышынец** (в. Дубовы Лог, Барысаўскі р-н), **Аліцыя** (г. Паставы), **Веранiка Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Юзэфа Шарабайка** (в. Прыперне, Глыбоцкі р-н), **Марыя Матус** (г. Валожын), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Валерый і Рэгіна Ракуцкія** (г. Браслаў), **Леанід Грыбач** (Гомель), **Ванда Маслава** (Фарынава, Полацкі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

**Дарагія сябры! Дзякуй, што вы ў нас ёсць!!!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# У Віцебскай дыяцэзіі прызначаны экзарцыст



**Біскуп Алег Буткевіч 11 сакавіка прызначыў марыяніна а. Аляксандра Жарнасека з парафіі св. Юзафа ў Оршы экзарцыстам. Дагэтуль ніколі ў Віцебскай дыяцэзіі не было свайго экзарцыста. Доўгі час вернікі вымушаны былі звяртацца па дапамогу святароў з іншых дыяцэзій.**

Цяпер сітуацыя змянілася. Айцец Аляксандр будзе прымаць ахвотных у сваёй парафіі, якая знаходзіцца па адрасе: горад Орша, вуліца Савецкая 6. Тэлефон.: (8–02161) 22441.

Экзарцыст – гэта святар, якому біскуп даручыў паслугу служэння малітвай-экзарцызмам.

Экзарцызм — гэта малітоўны зварот да Бога з просьбай вызваліць апантаную асобу ад уплыву злога духа. Экзарцысты выганяюць д'ябла пры дапамозе малітвы моцаю Хрыста. Адрозніваюць экзарцызмы традыцыйныя і простыя. Традыцыйны экзарцызм праводзіцца у выпадку апантанасці, і ім кіруе біскуп або вызначаны біскупам святар. Правядзенне гэтага абраду патрабуе папярэдняга выканання шэрагу ўмоваў: экзарцыст не можа знаходзіцца ў стане цяжкага граху, павінен шмат маліцца і пасціць. Перад пачаткам абраду выгнання д'ябла асоба, якая лічыцца апантанай, праходзіць спецыяльную праверку. Гаворка ідзе пра сімуляцыі, прывіды або псіхічныя хваробы. З іншага боку, псіхолагі вельмі часта сапраўдную апантанасць ацэньваюць яе «псіхічную хваробу», адбіраючы такім чынам у апантаных адзіную магчымасць паратунку, які дае экзарцызм.

Айцец Аляксандр Жарнасек родам з Наваполацка. Пасля сканчэння школы ўступіў у супольнасць айцоў-марыянаў Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. Працаваў у парафіях Жодзіна і Мінска.

З'яўляецца стваральнікам сайта "Вяртанне", дзе можна знайсці шмат хрысціянскіх канферэнцый, сведчанняў і казанняў.

Айцец Аляксандр праводзіць у Оршы сустрэчы пад называй "Вінаграднік" для тых, хто сустрэў у сваім жыцці Жывога Бога або прагне Яго сустрэць. Наведвае аршанскую турму кожны тыдзень, дапамагаючы людзям за кратамі шукаць Госпада.



# Блізняты, маці якіх не згадзілася на аборт, сталі святарамі

**Феліпэ і Паўло Лізама – чылійскія браты-блізняты, якіх маці выратавала шляхам адмовы ад аборту і якія два гады таму прынялі святарскія пасвячэнні.**

Калі іх маці Ружа была цяжарная, ёй сказалі, што яна носіць дзіця з двума галовамі, трыма нагамі і чатырма рукамі. Ёй прапаноўвалі «тэрапеўтычны» аборт, які тады (у 1984 годзе) дапускаўся ў Чылі. Жанчына адмовілася ад аборту: яна вырашыла прыняць тое, што ёй хоча даць Бог, хоць, як ёй паведамілі, гэта магло таксама азначаць рызыку для жыцця жанчыны.

Небяспекі хаця б для аднаго з братоў не было нават падчас родаў. Першым нарадзіўся Феліпэ. А паколькі плацэнта не выйшла вонкі, лекары вырашылі самі яе ліквідаваць. Парадзіха папрасіла іх пачакаць, таму што адчувала, што праз імгненне народзіцца другое дзіця.

«Яны маглі сур'ёзна мяне траўмаваць, але мая мама ведала, што я ёсць. І гэта шмат для мяне значыць», – сказаў кс. Паўло, які нарадзіўся праз сямнаццаць хвілін пасля брата.

Калі хлопцам было па 14 гадоў, іх бацькі развяліся. «Гэта было цяжка для нас. Да гэтага мы вельмі любілі гуляць у футбол. Па нядзелях гулялі і не хадзілі на Імшу. А потым мы ўжо не маглі займацца футболам», – успамінаюць браты.

Адзінай падтрымкай для іх стаў касцёл. Калі ім было па васямнаццаць, яны, незалежна адзін ад аднаго, вырашылі паступаць у семінарыю. У 2012 годзе абодва браты прынялі святарскія пасвячэнні ў кафедральным саборы Вальпараіса і атрымалі накіраванні ў розныя парафіі.

«Як жа я мог не стаць на бок Бога жыцця? Гэтыя падзеі ўмацавалі маё прызначэнне, далі мне жыццёвыя сілы і зрабілі здольным аддаць сябе за тое, у што я веру», – сказаў кс. Паўло.

Цяпер у Чылі аборты забароненыя. Гэтая краіна можа пахваліцца самым нізкім ва ўсёй Лацінскай Амерыцы паказчыкам смяротнасці падчас родаў.

*Паводле wiara.pl*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**23 сакавіка 2014 г. — Ян 4, 5 – 42**

Жывая вада – гэта духоўнае жыццё, падтрыманае навукай Хрыста. Гэта яна дае жыццё вечнае. Вада – сімвал Святога Духа. Сапраўдны культ Бога – гэта праслаўленне Айца ў духу і праўдзе. Хрысціянін шукае кантакту з Поўняй духоўнасці, якая праяўляецца ў Асобе і дзеянні Езуса Хрыста. Шукае рэчаіснасці, якая аб'яўляецца ў Езусе і Яго Слове. Сапраўдны культ Бога – гэта культ Айца праз Хрыста, з Хрыстом і ў Хрысце, у еднасці Духа Святога. Езус з'яднаны з Айцом і выконвае волю Айца. Так, як чалавек жыве, спажываючы хлеб штодзённы.

*– Чаго шукаю ў жыцці?*

*– Ці звязаныя мае клопаты, праблемы і энергія з пошукамі Езуса і Яго навукі?*

*– Чым ажыўляю сваё жыццё?*

*– Ці тое, чаму прысвячаю свой час, сілы і жыццё, вядзе мяне да атрымання вечнага жыцця з Богам?*

*– Ці шукаю сапраўднага і жывога кантакту з Езусам?*

*– А можа, задавальняюся толькі мёртвым, знешнім перажываннем сваёй веры?*

*– А можа, шукаю духоўнасці ў практыках, абрадах і навуках, а не ў Езусе?*

*– Як выглядае мая вера?*

*– Колькі ў ёй Езуса і Яго навукі, а колькі – маіх поглядаў, перакананняў і пачуццяў?*

*– Можа, бескрытычна прымаю фальшывую навуку, думаючы, што гэта і ёсць духоўнасць?*

*– Ці пытаюся пра Божую волю?*

*– Ці выконваю Божую волю?*

*– Ці іду за Езусам, выконваючы Яго волю?*

**30 сакавіка 2014 г. — Ян 9, 1 – 41**

Езус аздараўляе сляпога, каб звярнуць нашу ўвагу на духоўную слепату. Такая слепата – гэта сапраўднае няшчасце, катораe вядзе да грэху адмаўлення Езуса. Трэба клапаціцца пра зрок сваёй душы. Сляпы выслухаў Езуса і дазволіў аздаравіць сябе, выконваючы тое, што Езус яму загадаў. Божае дзеянне ў яго жыцці было знакам, што Езус – Збаўца. Калі Езус аб'явіў яму навуку пра тое, кім з'яўляецца, аздароўлены паверыў у Езуса. Інакш паступаюць фарысеі, якія не хацелі верыць, хоць і пераконвалі, што бачаць.

*– Ці бачу дзеянне Божае ў сабе і вакол сябе?*

*– Ці маю ўражлівасць на Божае дзеянне?*

*– Ці дзякую за атрыманыя ад Бога дары?*

*– Ці праслаўляю Езуса?*

*– А можа, я празмерна ганарлівы, думаю, што ўсё разумею і ўсё ведаю, а таму Божая праўда мне не патрэбна?*

*– А можа, вельмі прывык да старога ладу бачання сябе і свету?*

*– Можа, баюся святла праўды?*

*– Можа, тое, што бачу вачыма веры, не падабаецца мне?*

*– Можа, не хачу жыць так, як паказвае мне святло веры?*

*– Можа, ігнарую праўду, Бога і факты?*

*– Можа, хачу заняць месца Бога і паказваць свет у такіх колерах і ў такім святле, як уяўляю сам?*

*– Можа, я ўпарты і няздольны да прызнання сваёй недасканаласці або памылкі?*

**6 красавіка 2014 г. — Ян 11, 1 – 45**

Езус – Пан жыцця і смерці. Уваскрашэнне Лазара – гэта знак для ўмацавання веры вучняў. Хрыстус – крыніца жыцця для ўсіх, хто ў Яго верыць. Праўда пра змёртвыхпаўстанне Езуса і пра тое, што Ён – Змёртвыхпаўстанне і Жыццё – сутнасць Евангелля. Езус збаўляе ад смерці і дазваляе жыць.

*– Ці веру ў змёртвыхпаўстанне Езуса?*

*– Ці разумею, што гэта – падмурак нашай веры?*

*– А можа, маё разуменне смерці з'яўляецца паганскім?*

*– Ці гатовы я аддаць сваё жыццё Езусу?*

*– Ці выконваю волю Божую?*

*– Ці люблю, як хоча таго Бог?*

*– А можа, шкадую аддаць Богу сваё сэрца, жыццё і любоў?*

*– Можа, думаю, што гэта страчаныя дарэмна хвіліны жыцця і магчымасці?*

*– Ці веру, што мая любоў да Бога – гэта не марнаванне жыцця?*

*– Ці ў Езусе шукаю сэнсу і жыцця?*

*– Ці з Ім цярплю і старэю?*

*– Ці іду я да Яго, Пана жыцця, у сваіх слабасцях і абмежаванасцях?*

*– Ці чакаю вечнасці з Ім?*

**13 красавіка 2014 г. — Мц 27, 11 – 54**

Езус, адкінуты сваім народам, пазбаўлены чалавечай годнасці. Аддадзены на ганебную смерць на крыжы. Яго смерць для правіцеляў жыдоўскага народа была доказам таго, што Ён не з'яўляецца Збаўцам. Памірае на крыжы ў вялікім цярпенні. Моліцца словамі 22 псальма, адчувае пакінутасць Богам. Гэта, аднак, малітва, поўная надзеі. У гэтым можна пераканацца, чытаючы словы ўспомненага псальма. Айцец прымае Яго прыніжэнне, адзіноту і цярпенне. Заслона, якая разарвалася ў святыні, з'яўляецца знакам таго, што смерць Езуса разарвала бар'еры, якія аддзялялі чалавека і Бога.

*– Ці я, вучань Езуса, не адкідваю Яго любові?*

*– Ці не распранаю сам сябе, вучня Хрыста, з чалавечай годнасці?*

*– Ці разумею, што Езус узяў на сябе прыніжэнне крыжа, каб мяне выратаваць?*

*– Ці разумею, што цярпенне, злучанае з Хрыстом, мае вартасць?*

*– Ці разумею, што любоў часта злучана з цяжкасцю?*

*– Ці звяртаюся я ў адзіноце з надзеяй да Езуса?*

*– Ці так, як Ён, давяраю нават тады, калі ўсе і ўсё супраць?*

*– Ці не будую ў сваім сэрцы бар'ер перад Богам?*

*– Ці дапамагаю іншым адшукаць Бога?*

*– А можа, сам з'яўляюся гэтым бар'ерам для людзей, якія шукаюць Бога?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Каханне і побыт

**Кажуць, што пачуцці паміж сужэнцамі з часам трацяць сваю прыгажосць. І прычына тут у побыце. А што на гэты конт думаюць маладыя сем'і?**

*Ірына Грэйць*



**Алег і Алена Лявіцкія:**

– Каб існавала сапраўднае каханне, мужу і жонцы неабходна быць шчырымі і сапраўднымі, натуральнымі ў сваіх паводзінах. Калі гэтага не будзе, можна палюбіць "маску", пад якой знаходзіцца абраннік. Ужо будучы ў шлюбе, чалавек раптам можа зразумець, што каханне разбураецца. Гэта і ёсць той момант, калі твой абраннік знаходзіцца без "маскі".

Калі ж закаханыя былі шчырымі паміж сабой, нішто не можа зламаць іх адносін. Сямейны быт – гэта ўвогуле элемент, які яшчэ больш развівае адносіны. Мы з мужам атрымліваем задавальненне ад таго, што часта разам набываем пэўныя рэчы ў краме, прыбіраем дома. Самае галоўнае – давяраць адно аднаму і дапамагаць ва ўсім. Сям'я – гэта не адзін чалавек, а маленькая супольнасць на ўсё жыццё.



**Аляксей і Таццяна Перадковы:**

– Вопыт нашага сямейнага жыцця небагаты – ўсяго толькі паўтара года. Каханне паміж мужам і жонкай – гэта праца, самая прыемная і самая патрэбная ў жыцці. Але наколькі б добра вы ні ведалі адно аднаго, знойдзецца шмат тых рэчаў, ад якіх вам не заўсёды будзе прыемна. Асабліва гэта датычыцца побыту. Крышынкі на стале, раскіданае адзенне – усё гэта ў адзін момант можа парушыць гармонію адносін. Але пастарайцеся быць чулымі адно да аднаго, служыце вашаму мужу або жонцы, асабліва ў першыя месяцы сумеснага жыцця. Захоўвайце наказы Пана і бярыце прыклад са Святой Сям'і. Тады Госпад узнагародзіць вас бязмежным шчасцем і любоўю.



**Дзяніс і Індрэ**

**Індрэ:**

– Штодзённы побыт робіць жыццё крыху сумным і аднабаковым. Але змагацца з гэтым заўсёды трэба толькі разам. Нам з мужам заўжды дапамагаюць супольныя мерапрыемствы. Я вельмі імпульсіўны чалавек. Сядзець на адным месцы – гэта не пра мяне. А муж, мне здаецца, наадварот, больш спакойны і ўраўнаважаны. Здавалася б, агульнага ў нас не так шмат, але з дапамогай Госпада мы робім нашае жыццё насычаным і цікавым. З пяцігадовага вопыту нашых сямейных адносін магу сказаць, што самае галоўнае – праз усе складанасці праходзіць разам. Калі гэтага не будзе, то пачнуцца недагаворкі і крыўды. Нарыклад, я веру ў асобны адпачынак, вечар з сяброўкамі ў кавярні, а вось у доўгае расстанне і адпачынак адно ад аднаго – не. Штодзённасць прыходзіць ад дрэнна пастаўленых прыярытэтаў. Кожны год мы ходзім у пілігрымку да Маці Божай Тракельскай. Гэта найлепшыя рэкалекцыі для нашай сям'і.

**Дзяніс:**

– Для мяне самае галоўнае, каб мае жонка і сыночак атрымлівалі ад мяне як мага больш увагі, каб яны былі шчаслівыя побач са мною. Канешне, я шмат часу праводжу на працы, Індрэ злуецца, але мы знаходзім кампрамісы. Разам гуляем па вечэрніх вуліцах, п'ём каву. Гэта нашы любімыя "рытуалы". Не кажу, што наша сям'я – прыклад для пераймання, але з Божай воляй у нас усё добра. Бываюць сваркі і непаразуменні, але праз супольную малітву і любоў да Бога ўсе цяжкасці можна пераадолець. Галоўнае – не аддаляцца адно ад аднаго.



**Аляксей і Вікторыя Філіпенкі**

**Аляксей:**

–Шлюб – гэта вольны саюз мужчыны і жанчыны, які створаны Богам для супольнага дабра. Прыемна, калі Віка нешта робіць для мяне, і калі я штосьці ахвярую для яе. Так мы выконваем прызначэнне шлюбу, якое даў Госпад. Для таго, каб уладкаваць асноўныя бытавыя пытанні, патрэбна некалькі рэчаў: прыгатаваць ежу, памыць посуд, вынесці смецце, прыбраць у кватэры, памыць і папрасаваць адзенне. Усе гэтыя рэчы чалавек павінен выконваць і да шлюбу. А ўжо паміж мужам і жонкай гэтыя абавязкі можна падзяліць у залежнасці ад таго, што ў кожнага атрымліваецца лепш і каму працей. Таму звычайна спрэчак на гэтую тэму не ўзнікае. Больш уплываюць на адносіны ў сям'і такія рэчы: супольныя інтарэсы, заробак, наяўнасць вольнага часу. У нашай сям'і такім вялікім прыкладам, што яднае нас, з'яўляецца наведванне нядзельнай Імшы. У святыні мы не толькі перажываем асаблівую еднасць разам з супольнасцю і Богам, але і пасля службы праводзім час, натхнёныя духам хрысціянскай любові.

**Вікторыя:**

– Хачу толькі дадаць, што ў быце нашай сям'і вельмі важнай з'яўляецца адсутнасць падзелу на "мужчынскую" і "жаночую" працу. Патрэбна прыносіць у сваё жыццё маленькія радасці: рамантычную вячэру, сумесны паход да сяброў, у кіно і, безумоўна, на святую Імшу. Калі муж з жонкай будуць давяраць сваё жыццё Стваральніку, то Ён будзе напаўняць радасцю нават простыя жыццёвыя рэчы.

**Пахвалёны Езус Хрыстус!!!**

*1 красавіка наш пробашч кс.Францішак адзначае юбілей. Ад усяго сэрца віншуем нашага дарагога ксяндза з гэтай прыгожай датай. Складаем вялікую ўдзячнасць Пану Богу за нашага пастыра. Молім і просім у Айца Нябеснага для кс. Францішка найвялікшых ласкаў: веры, моцы духу, здароўя, вялікага шчасця. Няхай збудуцца ўсе яго запаветныя мары. Няхай Божае Святло асвячае заўсёды яго шлях.*

*Вернікі парафіі св.Андрэя Баболі ў Полацку*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2081

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3500 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 13.03.2014 г. у 07.28

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02156)2-32-60
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ